# Палітычныя падзеі.

## „Дзьве справядлівасьці"...

Усе польскія левыя, а нават і сацыялістычныя газэты захопліваюцца прамовай міністра і дэлегата Польшчы, Скшыньскага, у Лізе Народаў. Трэба аб'ектыўна прызнаць, што пасьля гэткіх анальфабэтаў, як Скірмунт, Сэйда ці Хлапоўскі, першы раз пасьля Ашкеназі Эўропа пачула з вуснаў польскага прадстаўніка, як кажуць расейцы, „членораздѣльную" мову...

П. Скшыньскі досьць спрытна бараніў у Лізе карысную для Польшчы „справядлівасьць", абапертую на праве, прызнаным, напісаным, устаноўленым—так сказаць — „вэрсальскую" справядлівасьць! Вельмі горача даводзіў аб канечнасьці пашаны да трактатаў, падпісаных дзяржавамі...

Але таксама спрытна ён адрозьніў ад гэтай бясспрэчнай „справядлівасьці" іншую — вельмі не карысную для Польшчы справядлівасьць „якая не абаперта на праве, прызнаным усімі". „Можна і яе таксама назваць справядлівасьцю, але ня можна гаварыць аб ёй, калі справа ідзе аб міры, бо гэтая абстракцыйная (ў Польшчы!) справядлівасьць, не абапертая на праве, гэта-ж — рэвалюцыя"!...

Так спрытна страшыў Лігу „дзяржаўных народаў", пануючых над „недзяржаўнымі", гэты клясычны прадстаўнік бязсільнай, але прагавіта - жываедзкай дзяржавы...

I вось, нават „сацыялістычны" „Robotnik", які павінен прызнаваць гэтую другую справядлівасьць, нават ён не адзначыў гэтага мейсца ў прамове свайго міністра...

З свайго боку мы, меншасьці, прапануем п. Скшыньскаму — да сваіх „дзьвюх справядлівасьцей" дадаць яшчэ і трэцюю: „справядлівасьць, абапертую на... пагвалчэньні дагавораў і трактатаў", „прызнаных, падпісаных і ўстаноўленых", — як, напрыклад, трактатаў Вэрсальскага аб меншасьцях з 28 чэрвеня 1919 году, — Рыжскага і... Сувальскага!

## „Akcja wywrotowa" ў Галічыне.

За апошнія дні ў Тарнапальскім пав. зарэгістраваны рад выпадкаў падпаленьня панскіх двароў і іншых праяваў сабатажнай (?) дзеяльнасьці.

## Манёўры ў Падольскай губ.

Па загаду Рэв-Ваен-Савету былы глаўкаверх Каменеў паехаў на заходнюю граніцу СССР — для інспэкцыйнага агляду чырвоных арміяў, перакінутых для манёўраў у Падольскую губ.

## Малдаўская Рэспубліка.

Старшыня Рады Народных Камісараў Украіны Чубар заявіў прадстаўнікам прэсы, што ўсе прыгатаўленьні да абвешчаньня незалежнай Малдаўскай Рэспублікі на граніцы Бэсарабіі ўжо скончаны, і акт гэты будзе апублікаваны неўзабаве.

Уся рэспубліка будзе мець каля 400.000 грамадзян.

## Пратэст СССР проці інтэрвэнцыі ў Кітаі.

Маскоўскае радіо разаслала афіцыяльны камунікат, рэзка пратэстуючы проці ўмяшацельства чужых дзяржаў у хатнюю вайну ў Кітаі.

## Перад выбарамі ў самаўрады ў Літве.

У Літве ўвесь народ горача рыхтуецца да выбараў у мясцовыя самаўрады. Розных партыяў і групаў, боручыхся на выбарах, вельмі многа, бо падана дагэтуль 26 сьпіскаў!... — Гэта — ў амаль не адналітай сялянскай краіне!... Выбары адбудуцца 19—20 верасьня.

## „Хартыя Працы".

Кангрэс англійскіх прафэсіянальных саюзаў прыняў так-званую „Хартыю Працы", якае прадугледжывае нацыяналізацыю зямлі, вугальных і іншых капальняў і чыгунак і дамагаецца стварэньня дзяржаўнага забастовачнага фонду і пэнсіяў усім працаўнікам ад 60 гадоў.

## Пастанова англійскіх Прафсаюзаў.

Кангрэс англійскіх Прафэсіян. Саюзаў пастанавіў, што, у выпадку небясьпекі выбуху новай вайны, павінен быць зараз-жа склікаы новы кангрэс, які-бы ўчыніў усе залежныя ад яго крокі дзеля ўхіленьня магчымасьці вайны.

## Адозва нямецкіх сацыял-дэмакратаў.

Нямецкія с.-д. выпусьцілі адозву, у якой захопліваюцца „карысьцямі", якія дае Нямеччыне Лёнданская ўмова, адчыняючы „новую эру ў гісторыі Нямеччыны". Адозва кажа, што буржуазны блёк (цэнтраправы ўрад, які ўжо падрыхтоўваецца) азначае ізаляцыю (адасабненьне) Нямеччыны і гаспадарчы развал. Адозва заклікае да коаліцыі і проці камуністаў і дамагаецца роспуску парляманту, каб народ мог выказацца ў справе нявыгадных для насяленьня ахаронных мытаў (якімі, як ведама, урад купіў галасы нацыяналістаў для „пляну Доўса").

А здаецца яшчэ так нядаўна нямецкія с.-д. дамагаліся плебісцыту ў справе гэтага-ж самага „забойчага для нямецкага работніка" „пляну Доўса!"

## Гішпанская ўлада ў Марокко.

Францускія газэты пішуць, што гішпанская ўлада ў Марокко прыйшла ўжо к канцу. Гішпанскі ўрад не абвяшчае аб аканчальным паражэньні сваім толькі дзеля таго, што баіцца выбуху рэвалюцыі ў краі.

# Сэсія Лігі Народаў.

## Рэзалюцыя аб забясьпечаньні міру.

6/IX на вячорным паседжаньні аднагалосна прынята рэзалюцыя ў справе бясьпечнасьці і разбраеньня, якая была ўложана ў паразуменьні прэм'ераў Англіі і Францыі.

Рэзалюцыя перадусім сьцьвярджае, што ўсе заявы паўнамоцных дэлегатаў даюць падставу спадзявацца аканчальнага ўстанаўленьня міру. А каб злагодзіць пэўныя розьніцы, Ліга пастанаўляе: склікаць ў найбліжэйшым часе міжнародавую канфэрэнцыю ў справе... збраеньняў (не — разбраеньня! — *Р.*). Працу разгляду ўсіх адносных дакумэнтаў і падгатоўкі канфэрэнцыі Ліга даручае першай камісіі.

## Ад'езд Мак-Дональда і Эрыо з Жэневы.

6 верасьня з Жэневы выехалі дамоў абодва прэм'еры — Мак-Дональд і Эрыо.

# Выкуп арэнднае і чыншавое зямлі.

Пасьля доўгіх спрэчак і барацьбы, у Сойме і Сэнаце прайшоў закон аб выкупе арандарамі і чыншавікамі арандаванае імі зямлі. 21 ліпня г. г. закон гэты быў апублікаваны ў афіцыяльным органе ўраду „Dziennik Ustaw" (№ 63) і ўжо атрымаў абязуючую сілу.

## Абшар дзейнасьці.

Закон аб выкупе чыншавое і арэнднае зямлі выданы бадай выключна для Заходняе Беларусі: ён мае сілу ў **Віленшчыне, Наваградчыне, у Палескім ваяводзтве ды ў беларускіх паветах Беластоцкага ваяводзтва — горадзенскім, ваўкавыскім, бельскім, беластоцкім і сакольскім**, а паза межамі Зах. Беларусі — на Валыні.

Закон адносіцца выключна да тых зямель, якія знаходзяцца **паза межамі мест і мястэчак.**

## Хто мае права выкупу.

Права выкупу арэнды, ці чыншавое зямлі маюць:

I. Былыя **вечныя чыншавікі**, якія пачалі арандаваць зямлю **да 21 чэрвеня** (па ст. стылю — да 9 чэрвеня) **1886 году**, незалежна ад скольксасьці зямлі. Яны дзеляцца на дзьве катэгорыі:

а) Тыя, што пачалі клапаціцца аб выкуп яшчэ перад расейскаю ўладаю, але справа якіх ня была ў свой час закончана. **І хоць-бы яны былі выкінуты з зямлі** пасьля 31 кастрычніка 1923 году, **маюць права на выкуп.**

b) Тыя, што клапаціліся перад расейскаю ўладаю аб выкуп, але іх просьбу адкінулі, даўшы права карыстацца зямлёй на старых варунках яшчэ пяць гадоў, — **калі яны на гэнай зямлі сядзяць і цяпер.**

Усе гэтыя правы пераходзяць і на тых арандароў, якім чынш ці арэнда дасталіся хоць-калі на моцы **пераўступу.**

II. **Былыя вольныя людзі**, прызнаныя за гэткіх расейскаю ўладаю да 16 чэрвеня 1882 году ў б. горадзенскай і віленскай губэрнях і да 1864 г. ў б. менскай губ., калі справа аб выкупе імі зямлі **не закончана да 21 ліпня 1924 г.** Скольксасьць зямлі ня мае вагі.

III. **Дробныя арандары**, якія:

а) самі, ці тыя, па кім зямлю дасталі, аселі на займаных цяпер землях да 1 красавіка 1895 году на аснове арэнднае умовы, хоць-бы менш, чым на 12 гадоў, але з правам аднаўленьня кантракту на старых варунках;

b) мелі ці маюць у умовах прызнанае права на вукуп, але скарыстаць з гэтага права не маглі дзеля неахвоты ўласьнікаў зрабіць купчую;

с) сядзелі на арандаванай зямлі перад 1 жніўнем 1914 г., маючы ўмову ня менш, як на 6 гадоў, і пабудаваліся на гэтай зямлі;

— калі яны ўсе карысталіся арандаванай зямлёй у дні 31 кастрычніка 1923 году і валадаюць ня больш, чым 40 дзесяцінамі.

## Каго пазбавілі права выкупу.

Пазбаўлены гэтага права:

а) хто ня мае польскага абыватэльства;

b) меў, ці мае падвойнае абыватэльства;

# Два шляхі.

(*Праблема разбраеньня*).

Адна з галоўных праблемаў, якую паставіла на сваю павестку зачыненая сэсія Лігі Народаў, гэта—*праблема разбраеньня.*

Кожны лёгка зразумее ўсю аграмадную важнасьць гэтай праблемы, зразумее, можа, таксама і тое, што ані гэтая сэсія, ані якая іншая гэтай самай Лігі ня вырашыць гэтай праблемы.

Праўду кажучы, праблема разбраеньня ў поўным аб'ёме нават і ня ставіцца, справа ідзе толькі аб *абмяжаваньні павялічэньня збраеньняў*, бо ад павялічэньня наагул нават і ня думаюць адмаўляцца „дзяржаўныя народы", з якіх складаецца Ліга.

Кожны лёгка зразумее і прычыну гэтай няшчырасьці ў барацьбе сучасных арганізаваных дзяржаваў з тым найвялікшым на Зямлі злом, якім зьяўляецца *сьвядомае, умыснае марнаваньне чалавечай працы на тое, каб вырабляць найлепшыя прылады, дзеля найлепшага зьнішчажэньня адзін аднаго*, стала падтрымоўваючы ў „вышэйшым грамадзянстве" і рассяваючы ў народзе неабходную дзеля „патрыятычна-баявога" самапачуцьця *ненавісьць да „ворага"—чалавека, да іншых дзяржаў і народаў.*

Мы ня так наіўныя, каб закідаць сучасным „дзяржаўным народам" тое, што яны ня хочуць зусім разаружыцца,—адразу зьдзейсьніўшы эвангельскія лятуценьні аб „перакаваньні мячоў на аралы".—Гэтая „маральная праблема"—зусім не актуальна цяпер.

Шмат больш цікава і шмат больш дае для зразуменьня сучасных палітычных адносінаў у сувязі з адбыўшайся сэсіяй Лігі — пытаньне аб тым, чаму сучасныя дзяржавы ня могуць і ня хочуць шчыра дагаварыцца аб тым, каб *зусім спыніць* павялічэньне збраеньняў, і згаджаюцца толькі на тое, каб *затармазіць тэмп* гэтага павялічэньня, ці, кажучы інакш,—згаджаюцца адно на тое, каб *толькі адсунуць, адсрочыць як можна далей* тую неадхільна пагражаючую ўсім вайну, якую гатуець сталы рост збраеньняў.

Кожны таксама лёгка зразумее, што стан зафіксаваных (устаноўленых назаўсёды на вядомай вышыні) збраеньняў адпавядаў-бы, так сказаць, „нармальнаму" стану, калі арміі маюць мэтай толькі абарону нармальна ўсталеных дзяржаўных граніцаў. Але—каму-ж ня ведама, што, апроч *абароны свайго*, амаль ня кожная дзяржава, і ўжо бязсумліўна кожная так званая „вялікая дзяржава", (ці маючая пратэнсію на „вялікасьць"), мае яшчэ непераможны апэтыт на чужое, а перадусім — на чужыя землі.

I вось з гэтага вынікае той *прынцып канкурэнцыі*, які адразу ператварае збраеньні з прылады дзеля абароны ў орган наступу—заваяваньня. А калі мы да таго дададзём яшчэ і раскрытае нямецкай стратэгіяй правіла, паводле якога „найлепшай абаронай зьяўляецца якраз наступленьне", дык тады правясьці мяжу пажіж сталай „мірнай арміяй абароны" і ўсё растучай „ваеннай арміяй наступу" будзе яшчэ цяжэй.

---

Каб зразумець яшчэ лепш абставіны і стан усей справы ў Эўропе і супярэчнасьці ў трактаваньні пытаньня аб разбраеньні на Кангрэсе Лігі Народаў, трэба прыняць пад увагу, што ў сучаснай Эўропе, якая радзілася ў Вэрсалі, істнуюць дагэтуль *два роды дзяржаў*, да якіх тасуюцца *зусім розныя меркі і законы*, а перадусім зусім розныя „нормы і формы збраеньня".

Можна сказаць, што *найляпей*, амаль не ідэальна праблема разбраеньня вырашана дзяржавамі - пераможцамі *для пабітых* імі ў апошняй вайне дзяржаў: Нямеччыны, Вэнгрыі, Аўстрыі і Баўгарыі, якія яшчэ не здалелі, падобна больш шчасьлівай Турцыі, вызваліцца ад гэтак-званага „ваеннага кантролю". Затое-ж *найгорш* гэтая пекная праблема мірнага разбраеньня вырашана тварцамі Вэрсальскага міру—*для сябе.*

Цяпер, калі мы падойдзем яшчэ бліжэй да дыскусіі ў гэтай справе ў Лізе Народаў, дык адразу ўбачым там вельмі цікавую і характэрную барацьбу *двух галоўных напрамкаў.* На чале абодвух гэтых напрамкаў стаяць Англія і Францыя.

Гэтая франка-англійская спорка у найвышэйшай меры характэрна для нашага часу, калі супярэчнасьці Вэрсальскай Эўропы дайшлі можа ўжо да найвялікшай дасьпеласьці, але дарэмна чакаюць *знутры* свайго разьвязаньня.

Як ведама, Ліга высунула два праекты: абмяжаваньня збраеньняў і так званае „ўмовы аб узаемнай дапамозе"—на выпадак, калі якая дзяржава першая няслушна пачне вайну.

Мы ня маем тутака месца падробязна разьбіраць гэтыя праектыя; адзначым толькі, што спрэчка паміж Англіяй і Францыяй зводзіцца да таго, што Францыя і яе група *адкідае абмежаваньне збраеньняў*, пакуль ня будзе прыняты і зрэалізаваны праект „умовы аб узаемнай гарантыі" проці новай вайны; Англія-ж якраз наадварот рашуча *адкідае гэтую ўмову*, прапануючы *цяпер-жа і беспасярэдна пачаць абмяжаваньні збраеньняў*, а тады ўжо, дый яшчэ толькі тады, калі ў Лігу ўвойдуць Амэрыка, Нямеччына, а можа й Расея, толькі тады пачаць абязываючую гутарку аб „узаемных гарантыях" проці новай вайны.

Зусім справядліва кажа „Kur. Polski", што гэтыя два праекты—„толькі два бакі аднаго мадалю", але-ж відаць ёсьць вялізарная рожніца ў тым, якім бокам гэты мадаль павярнуць сьпярша дагары—„францускім" ці „англійскім"...

---

I вось, не ўваходзячы ў вельмі цікавыя дэталі, спрабуем паказаць, што азначаюць гэтыя „абодва бакі аднаго мадалю", — да чаго імкнецца канкрэтна кожная старана — француская і англійская—ў спрэчцы паміж сабой.

Вось як, відаць зусім „bona fide", характэрызуе становішчы споручых напрамкаў „Kurjer Polski".

„Ясна кожнаму, што разбраеньне астанецца пустым лёзунгам, калі дзяржавы не атрымаюць іншай гарантыі свайго быту.—Дзеля таго сьпяр-

изданію, причемъ я взялъ особенное вниманіе на изученіе Бѣлоруссіи, Литвы и Украины, для которыхъ потратилъ очень много труда и время. Желая какъ можн• шире распространить это научное изданіе, которое должно безусловно быть для каждаго славянина необходимою настольнаю книгою, — я обращаюсь къ Вамъ, какъ авторъ, со покорностью прошу помочь мнѣ матеріально на изданіе указаннаго моего научнаго труда, который по выходѣ въ свѣтъ въ благодарность будетъ Вамъ сейчасъ-же высланъ. Безусловно надеюсь, что Вы не откажете своей посильной помощью въ этомъ дорогомъ дѣлѣ и будете рекомандовать своимъ знакомымъ придти тоже на помощь мне. Простите за беспокойство. Съ почтеніемъ А. Бочкаревъ. 15.VIII.1924 г., гор. Вильно".

Наш падпішчых пытаецца, як яму аднясьціся да тэтае просьбы, і ці ня ведае Рэдакцыя аб гэтым чалавеку.

Вось-жа ў Вільні ёсьць нейкі п. Бочкарёв, і Рэдакцыі ён вядомы з розных бакоў, апрача толькі... „навуковага"! Мо' „навуковая" праца п. Бочкарёва істнуе... ў яго выабражэньні? Прынамся ў Вільні „навуковай" дзейнасьці гэты пан дагэтуль не выяўляў!...

Радзім нашаму падпішчыку быць... асьцярожным.

**Студэнт—злачынца.** „Грамацзкі Голас" апісывае, як нейкі студэнт віленскага унівэрсытэту—з „панучае нацыі", Мруклік, дабраўшы сабе колькі „добрых кумпанаў" спасярод польскіх студэнтаў вышэйшых школ, атрымліваў па падробленым кніжкам грошы з касаў ашчаднасьці.

Вельмі пікантна чытаць аб гэтым у газэце... пана Валэйшы, які ў сваім часе займаўся такім-жа „фахам", атрымліваючы грошы з казначэйства па падробленым асыгноўкам, за што і быў засуджаны ў 1912 г. віленскім аружным судом на 4 гады арыштанцкіх рот!

Справу п. Валэйшы і ягоную асобу дужа добра помняць вядомыя віленскія адвакаты: п. Врублеўскі, п. Абрамовіч і... той самы судовы ўрадовец, які выпаўняў прыгавор суда і выпраўляў п. Валэйшу ў вастрог!

## „Даразны суд у Слоніме".

Пад гэтым загалоўкам „Robotnik" зьмяшчае слушны пратэст проці пастановы горадзенскае пракуратуры аддаць вядомую справу аб спробе пабегу палітычных арыштантаў з наглядчыкам Курылам з Слонімскага вастрогу на разгляд „даразнага суда",—без ніякіх на тое законных і лягічных падставаў.

Плян пабегу быў разстроены крыкам стражніка Грасевіча, якога вязьні хацелі зьвязаць, заткнуўшы яму вусны шматаю. Тады, як мы ўжо пісалі, усе вязьні вярнуліся назад у сваі камеры.. Здаецца,—абраз спробы пабегу—зусім ясны. Але тады ня было-б магчымасьці засудзіць 11 беларусоў і 7 жыдоў-камуністаў (?) на кару сьмерці. I вось пан „крэсавы" пракурор (Тэрліньскі) аддае справу даразнаму суду, вінавацячы ў спробе забойства стражніка—ўсіх 19 асобаў...

„Robotnik" праўду кажа, што гэткае абвіненьне „ідзе насупраць кардынальным вымогам лёгікі—юрыдычнае і жыцьцёвае". Але-ж яно зусім добра годзіцца з лёгікай „крэсовай"!..

Зусім відавочна, што, калі-б вязьні, паміж якімі ня было ані воднага ўгалоўнага, запраўды хацелі забіць стражніка, дык лёгка маглі-б зрабіць гэта адабранай ад яго стрэльбай. Але на стражніку толькі сьляды ад рук—сінякі і шрамы каля рота, які вязьні стараліся заткнуць...

„Robotnik" прыпамінае, што нават у царскія часы—нават у Варшаве, калі ў варшаўскім ваенным вастрозе выбухнуў бунт, у часе якога забіты быў сам начальнік вастрогу, капітан Тобольскій, і разброена была ўся старожа, дык расейскі суд прысудзіў, і то толькі галоўных вінавайцаў, на некалькі гадоў турмы.

А тут вось у „толерантнай", „дэмакратычнай" Рэспубліцы адданы пад пагрозу сьмерці 19 асоб—палітычных вязьняў—за спробу пабегу, няўдалую, зусім бязкроўную, пабегу з вастрогу, аб рэжыме ў якім крычыць ужо ўвесь цывілізаваны сьвет!..

Вось што значаць „Крэсы" для беларусаў і... для самай польскай душы!..

## Легенды пра Муху.

Польскія газэты пашыраюць цэлыя казкі аб нападах партызанскіх атрадаў на „крэсах". Адзін з атаманаў, арганізуючых гэтыя напады — Муха (праўдзівае прозьвішча—Міхальскі).

Вось што піша аб ім адзін з карэспандэнтаў варшаўскай газэты „Мамэнт":

Кожны аб ім гавора — і багаты польскі пан, які палохаецца яго „візыту", і зьбяднеўшы беларускі селянін, які з захапленьнем складае пра Муху казкі.

Муха, кажуць, не рабуе, але бярэ „працэнты" з маемасьцяў.

Яго тэрор у краі такі моцны, што паралізуе бадай кожную спробу самаабароны. Абяцае якому пану, што зьявіцца да яго ў пэўны час, і выконвае сваё слова. Апавядаюць, што нейкі пан атрымаў ад Мухі ліст аб тым, каб ён у пэўны тэрмін нарыхтаваў вялікую суму грошай, па якія ён, Муха, сам прыдзе. Пан аб гэтым паведаміў уладу, і на той дзень у яго маёнтку было шмат паліцыянтаў. Цэлы дзень—гэта было зімой — ніхто не паказваўся. Позна ўвечары прыехаў ксёндз, які трохі хацеў пагрэцца. Пасьля, калі пан праводзіў „гасьця", дык перад вачыма пана бліснуў рэвальвэр. Ксёндз гэты быў Муха, які прасіў у пана тую суму грошай, аб якой ён напісаў раней. Муха атрымаў свае грошы, і паліцыянты асталіся з носам.

Муха любіць таксама праўду і справядлівасьць. Аднаго разу ён напаў на нейкую паню, у якой ён забраў пэўную суму грошай. Назаўтра пані аб гэтым паведаміла ў паліцыі, пры гэтым яна паказала большую суму грошай, чымся было ў сапраўднасьці. На другую ноч Муха зноў зьявіўся да гэтай пані і запатрабаваў у яе, каб яна яму дадала рэшту грошай.

Муха страшны для багатых паноў і купцоў. Беднае насяленьне ён не чапае. Яшчэ больш: ва ўсім краі ў розных вар'янтах апавядаюць аб яго „добрых учынках". Сустрэў на дарозе селяніна на кепскім кані—і даў яму грошы на добрага каня. У другім мейсцы даў беднай удаве грошы на карову і г. д.

Усе гэтыя казкі звычайна канчаюцца тым, нібы Муха дае наказ гэтым людзям, абдораным ім, каб яны „ўсяму народу" аб гэтым апавядалі.

Беднае сялянства стварыла пра Муху цэлы жмут розных лягендаў і баек.

## Весткі з вёскі.

**В. Залацеева**, Слонімскага пав.

„Я апішу хаця коратка жыцьцё сялян нашае вёскі Залацеева.

Сяляне нашае вёскі з каждым днём ждуць, самы ня ведаюць чаго. Яны думаюць, што ёсьць недзе нейкі асвабадзіцель ад усіх нашых бед, але думкі праходзяць і ніякае палёгкі няма,—усё старое, каторае збрыдла мужыку, як горкая рэдзька.

З сялянамі ўлада абходзіцца сурова. З вясны нашы сяляне падаткаў плаціць адмовіліся, ня гледзячы на пагрозы гміны. Падатак ад скаціны і страхоўка яшчэ незаплачаны. Але прыйшло ўжо к канцу. Ясновяльможны пан Войт нашай гміны, Дамброўскі, які істнуе ў нашай гміне з часу істнаваньня Польшчы ў нас, прыехаў у нашу вёску 17 жніўня, якраз у нядзелю пад вечар, і заявіў людзям, каб плацілі страхоўку; а хто адмаўляецца, то каб заяўляў ему цяпер, бо будзе кепска (але ён гэта казаў толькі тым, што былі на вуліцы, хто сядзеў каля сваей хаты). Некаторыя пачалі заяўляць, што страхоўкі плаціць ня будзем, бо ня бачым карысьці з тых грошы, якіх ужо ня мала мужыкі заплацілі. Дык войт пазапісываў іх у сваю кніжку і кажа, што заўтра прыедзе ў вёску і забярэ каровы. Але і сяньня яго няма.

Але чаму гэта нашы сяляне ня хочуць плаціць страхоўкі? А ось чаму: як ведама каждаму, а также польскай уладзе, нашы сяляне яшчэ знаходзяцца ў бядзе, яшчэ ня станулі добра на ногі, ня ўстроілі сваіх гаспадарак, а тут ім не даюць дыхнуць рознымі падаткамі ды страхоўкай, якой трэба будзе заплаціць некаторым каля 100 зл.

А яшчэ ў нас ёсьць Дэрэчынскае лясьніцтва.

Пайшоў я з Пятром Грынцэвічам да лясьнічага—прасіць, каб ён даў нам разрашэньне на загатоўку дроў; але лясьнічага ня было дома.

Другі дзень пайшоў адзін Грынцэвіч, але лясьнічы заявіў, што дроў няма ў бліжэйшым лесе, а як хочаш, то ёсьць у Мядухове (за 20 вяр.).

Беднаму мужыку нігдзе доступу няма, а гэты самы лясьнічы ў гэтым самым нашым лесі „Сухая" разрашыў ставіць мэтры на дровы з нашай вёскі багатыру-амэрыкану. **Іван Грэцкі.**

## З УСХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

**Новыя сямёхгодкі.**

Калегія Менскага Пав.-Гар. Аддзелу Нар. Асьветы зацьвярдзіла для **Менскага вокругу** 42 сямёхгодкі, з якіх 19 поўных і 23 няпоўныя.

**Пэдагагічны тэхнікум.**

У **Віцебску** адчыніўся пэдагагічны тэхнікум.

**Музычны тэхнікум.**

Адчыняецца ў **Менску** музычны тэхнікум.

Часовым дырэктарам яго назначан п. Бязсьмертны.

**Краязнаўства.**

ЦБ краязнаўства пры Інбелкульце атрымала паведамленьне **з Мазыра** аб пачатай там арганізацыі павятовага краязнаўчага таварыства.

Арганізацыя названага та-ва гуртуецца каля павятовага аддзелу народнае асьветы.

**У Інбелкульце.**

Выехала з Менску ў Магілёўшчыну арганізаваная Інбелкультам этнаграфічная экскурсія.

У склад экскурсіі ўваходзяць: этнограф Сяржпутоўскі і прафэсар Прохараў.

## Наша пошта.

1) **Лаўрэну Парфяновічу**, 5 зл. атрымалі. 2) **Тодару Бунрабе**, 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем. 3) **Яну Міхальскаму**, 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем. 4) **Яну Коніку**, 2 зл. атрымалі. 5) **Сьцяпану Позьняку**, 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем. 6) **А. Карушчыку**, 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем. 7) **Уладіміру Мятле**, 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем. 8) **Язэпу Шышцы**, 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем.